ДУК “ГРОДЗЕНСКАЯ АБЛАСНАЯ НАВУКОВАЯ БІБЛІЯТЭКА ІМЯ Я.Ф.КАРСКАГА”

АДДЗЕЛ КРАЯЗНАЎСТВА

# Краязнаўчы каляндар на 2010 год



Гродна, 2009

Краязнаўчы каляндар на 2010 год створаны на аснове фактаграфічнай картатэкі “Слынныя імёны Гарадзеншчыны”, якая змяшчае звесткі з энцыклапедычных выданняў: Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. – Мн.: БелЭн., 1996 – 2004; Республика Беларусь: энцикл.: в 6 т. – Мн.: БелЭн., 2005 – 2008; Беларусь: энцыкл. давед. – Мн.: БелЭн., 1995; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. – Мн.: БелЭн., 1993 – 2003; Мысліцелі і асветнікі Беларусі. X – XIX стст.: энцыкл. давед. – Мн.: БелЭн., 1995; Асветнікі зямлі беларускай. X – пач. XX стст: энцыкл. давед. – Мн.: БелЭн., 2001; ВКЛ: энцыкл.: у 2 т. – Мн.: БелЭн., 2005 – 2006; Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. – Мн.: БелСЭ, 1984 – 1987; Беларускія пісьменнікі: біябібліягр. слоўн.: у 6 т. – Мн.: БелЭн., 1992 – 1995; Тэатральная Беларусь: энцыкл.: у 2 т. – Мн.: БелЭн., 2002 – 2003; Беларускі фальклор: энцыкл.: у 2 т.– Мн.: БелЭн., 2005 – 2006; Народная культура Беларусі: энцыкл. давед. – Мн.: БелЭн., 2002; Спортивная энциклопедия Беларуси. – Мн.: БелЭн., 2005; Туристская энциклопедия Беларуси. — Мн., 2007; Пяткевіч,А. Людзі культуры з Гродзеншчыны: давед./Аляксей Пяткевіч. – Гродна, 2000; Долготович,Б. Военачальники земли белорусской: энцикл. справ./Борис Долготович. – Мн.: БелЭн., 2005; Выкладчыкі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы: біябібліягр. давед. – Гродна, 1999; Заведующие кафедрами и профессора Гродненского государственного медицинского (института) университета (1958 – 2003). – Гродно, 2003.

Адбор юбілейных дат рабіўся ў адпаведнасці са значнасцю для гісторыі, эканомікі і культуры краю. Для персаналій юбілейнымі вырашана лічыць: 50, 60, 70, 75, 80, 90, 110, 120, 125, 130, 140, 150... і далей гадоў. Для іншых юбілейных падзей: 20, 25, 30, 40, 50... і далей як для персаналій гадоў. Указваюцца сувязі дзеячоў з Гродзеншчынай. Даты даюцца па новаму стылю, геаграфічныя аб’екты – згодна сучаснага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення.

Краязнаўчы каляндар на 2010 год змяшчае звесткі аб звыш 270 юбілеях прадстаўнікоў розных галін дзейнасці, прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, але складальнікі не прэтэндуюць на абсалютна поўную інфармацыю. Бібліятэкары могуць дапоўніць гэту працу новымі звесткамі пра свае рэгіёны.

Спадзяёмся, што наш каляндар будзе карысным і цікавым для чытачоў, навукоўцаў, краязнаўцаў і бібліятэкараў.

## У 2010 годзе спаўняецца:

**660** год з дня нараджэння **Вітаўта** (1350 – 1430). Князь Гарадзенскі, Вялікі князь ВКЛ.

**625** год з часу першага ўпамінання ў пісьмовых крыніцах **г.п.Астрына** Шчуч. р-на (1385 г.).

**550** год з дня нараджэння **Глінскага Івана Львовіча** (мянушка Мамай; 1460 – 1522). Ваявода Навагрудскі (1507 г.).

**540** год з часу першых звестак у гістарычных крыніцах пра **г.п.Зэльва** (1470 г.).

**530** год з дня нараджэння **Юрыя Радзівіла** (каля 1480 – 1541). Дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Меў маёнткі Баруны, Геранёны ў Ашмян. павеце, Індура, Котра, Табола ў Гродзен. павеце, Жырмуны, Дакудава, Сялец і Збляны ў Лід. павеце.

**500** год з дня нараджэння **Фёдарава Івана** (сапр. Масквіцін Іван Фёдаравіч; каля 1510 – 1583). Асветнік, заснавальнік кнігадрукавання ў Расіі, на Украіне і ў Заблудаўскай друкарні (Гродзен. павет).

**490** год з дня нараджэння **Бекеша Каспара** (1520, Трансільванія – 1579, Гродна). Ваенны палітычны дзеяч. Валодаў маёнткамі ў Гарадзенскім павеце.

**490** год з дня нараджэння **Валовіча Астафія Багданавіча** (каля 1520, Гродзеншчына – 1587). Грамадскі і дзяржаўны дзеяч ВКЛ.

**480** год з дня нараджэння **Волана Андрэя** (1530 – 1610). Беларускі грамадскі дзеяч, філосаф, правазнавец, пісьменнік.

**430** год з дня нараджэння **Маскевіча Самуіла Іванавіча** (1580(?), в.Сэрвач Навагрудчына, цяпер Карэл. р-н – 1642). Пісьменнік, мемуарыст, грамадскі дзеяч.

**410** год з дня нараджэння **Лякшыцкага Францішка** (1600 – 1668, Гродна). Беларускі жывапісец, майстар алтарных карцін, мастак-самавучка. Пісаў алтарныя карціны для жаночага брыгіцкага манастыра ў Гродне.

**375** год з часу пабудовы **кляштара францысканцаў** у Гродне (1635 г.). Помнік архітэктуры ў стылі барока.

**310** год з дня нараджэння **Фантана Іосіфа III** (1700(?) – пасля 1755), Італьянскі архітэктар, прадстаўнік барокка. Пабудаваў царкву Раства Багародзіцы ў Гродзен. манастыры базыльянак (1726 г.) і палац Сапегаў (1741-1744 гг.).

**280** год з дня нараджэння **Агінскага Міхала Казіміра** (1730 – 1800). Дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, кампазітар, паэт, мецэнат. Уладальнік Слонім. староства. Заснаваў слонім. мануфактуры, Слонім. друкарню, Слонім. тэатр Агінскага, Слонім. балетную школу, Слонім. капэлу Агінскага. Па яго ініцыятыве і на яго сродкі быў пабудаваны Агінскі канал.

**275** год з дня нараджэння **Сака Джузэпе** (1735 – 1798). Італьянскі архітэктар. У 1773-1774 гг. – каралеўскі архітэктар у Гродне. 1774-1780 гг. – кіраўнік будаўнічых работ у Гродне.

**270** год з дня нараджэння **Белапятровіча Ежы** (1740 – 1812). Дзяржаўны дзеяч ВКЛ. У 1771 г. – лідскі лоўчы, у 1810 г. – заснавальнік і першы старшыня Таварыства дабрачыннасці ў Навагрудку.

**260** год з дня нараджэння **Маркевіча Ануфрыя** (1750(?), Навагрудчына – 1807(?)). Беларускі асветнік, юрыст.

**250** год з дня нараджэння **Сціргейка Яна** (Івана; 1760 – каля 1817). Беларускі філосаф, прафесар філасофіі ў Гродне.

**250** год з дня нараджэння **Гружэўскага Юзафа** (1760 – 1845, в.Кульбакі Лід. р-на). Капітан польскіх войск, памяжовы Лідскага павета, апошні прэзідэнт межавага суда Ліды.

**250** год з дня нараджэння **Магусевіча Андрэя Міхайлавіча** (1760 – 1816). Беларускі вучоны-медык. Вучыўся ў Гродзенскай медыцынскай акадэміі.

**250** год з дня нараджэння **Гараіна Яна Непамуцэна** (1760 – 1820). Удзельнік паўстання 1794 г. ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве. Пасля задушэння паўстання жыў у Гродне.

**230** год з дня нараджэння **Анацэвіча Ігната Сымонавіча** (1780, в.Малая Бераставіца Берастав. р-на – 1845). Беларускі гісторык, археограф, архівіст.

**225** год з дня нараджэння **Бароўскага Каспара** (1785, Гродзеншчына – 1854). Беларускі жывапісец, педагог. У 1835 г. – напісаў абразы для касцёла у в.В.Эйсманты Берастав. р-на.

**225** год з дня нараджэння **Палінскага Міхаіла Мадэставіча** (1785, Слонім. р-н – 1848). Беларускі матэматык, доктар філасофіі, прафесар.

**220** год з дня нараджэння **Гурскага Валер'яна** (1790, каля Гродна – 1874). Беларускі педагог, механік, тэхнік.

**210** год з дня нараджэння **Хелмікоўскага Яна** (1800 (?) – 1873). Беларускі акцёр, спявак, антрэпрэнёр. У 1854-1855 гг. працаваў у Гродне.

**210** год з дня нараджэння **Жалязоўскага Ігнацыя** (1800 – 1872, Гродна). Рэлігійны праваслаўны дзеяч. У 1839-1848 гг. – настаяцель Барысаглебскай (Каложскай) царквы ў Гродне. З 1852 г. жыў у Жыровічах і Гродне.

**210** год з дня нараджэння **Зялёнкі Кандыда** (1797 ці 1800 – 1860). Ксёндз Гродзенскага Дамініканскага кляштара. Першы бібліятэкар Гродзенскай публічнай бібліятэкі (верасень 1830-1831 гг.).

**210** год з дня нараджэння **Кулакоўскага Ігната Рыгоравіча** (1800, в.Янаўшчына Свісл. р-на – 1870). Беларускі грамадскі дзеяч, педагог.

**200** год з дня нараджэння **Цяплінскага Марціна** (1810(?), б.фальварак Крупава Зэльв. р-на – 1847). Беларускі паэт, фалькларыст.

**190** год з пачатку дзейнасці **Гродзенскай губернскай друкарні** (1820 г.). Працавала да 1915 г.

**190** год з дня нараджэння **Палюты Горгія Антонавіча** (1820, Гродна – ?). Вучоны-медык, прафесар Харкаўскага ветэрынарнага інстытута.

**180** год з дня нараджэння **Клімовіча Вікенція Восіпавіча** (каля 1800, в.Пярэсека Навагруд. р-на – каля 1880). Удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Беларусі ў 1850-60-я гг., кампазітар.

**175** год з дня нараджэння **Гаркаві Аўрама Якаўлевіча** (1835, Навагрудак – 1919). Расійскі ўсходазнавец, семітолаг.

**175** год з дня нараджэння **Гіргаса Уладзіміра Фёдаравіча** (1835, Гродна – 1887). Мовазнавец-арабіст, педагог, дацэнт (1865 г.), прафесар Санкт-Пецярбургскага універсітэта (1873 – 1885 гг.).

**175** год з дня нараджэння **Мілевіча Ільдафонса Юр'евіча** (каля 1835 – ?). Адзін з кіраўнікоў паўстання 1863-1864 гг. на Беларусі, Польшчы і Літве. З 1860 г. – каморнік у Гродзенскай губерні. У 1863 г. – сакратар паўстанцкага цывільнага начальніка Гродзенскай губерні.

**175** год з дня нараджэння **Цэханоўскага Целесціна Міхайлавіча** (1835 – 1906). Удзельнік паўстання 1863-1864 гг. у Беларусі, Польшчы і Літве. Вольнапрактыкуючы ўрач у Гродне.

**170** год з дня нараджэння **Мінейкі Зыгмунта Станіслававіча** (1840, в.Балванішкі, цяпер Зялёны Бор Ашмян. р-на – 1925). Удзельнік паўстання 1863-1864 гг. на Беларусі, Польшчы і Літве. Паўстанцкі ваенны начальнік Ашмян. павета.

**160** год з дня нараджэння **Горава Фёдара Пятровіча** (1850 – 1910). Рускі акцёр. У 1878-1879 гг. – гастраліраваў у Гродна.

**140** год з дня нараджэння **Пакрышкіна Пятра Пятровіча** (1870 – 1921). Рускі архітэктар, рэстаўратар. У 1904-1906 гг. рэстаўрыраваў Каложскую царкву. У 1908-1910 гг. – Лідскі замак.

**140** год з дня нараджэння **Трусевіча Станіслава Станіслававіча** (псеўд. Казімір Залеўскі; 1870, в.Вераскава Навагруд. р-на – 1918). Дзеяч рэвалюцыйнага руху на Беларусі, у Польшчы, Літве, публіцыст. У 1891-1892 гг. вёў прапаганду сярод настаўнікаў і сялян Навагруд. і Лід. паветаў.

**120** год з дня нараджэння **Арла М.** (Пятэльскі Сцяпан Язэпавіч; 1890 – 1917). Беларускі паэт і публіцыст. У 1910 г. настаўнічаў у в. Струга Мастоўс. р-на.

**120** год з дня нараджэння **Дарашкевіча Івана Канстанцінавіча** (1890 – 1943). Беларускі паэт. Скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю (1909 г.). Настаўнічаў на Гродзеншчыне.

**120** год з дня нараджэння **Ляжневіча Аляксандра Францавіча** (1890, в.Сенцяняты Смаргон. р-на – 1937). Беларускі драматург, тэатразнавец, дзеяч культуры, акцёр.

**120** год з дня нараджэння **Яноўскага Самуіла** (1890, в.Матылі Шчуч. р-на – 1935). Яўрэйскі журналіст, краязнавец, бібліёграф.

**110** год з часу заснавання **Гродзенскай епархіі Беларускай праваслаўнай царквы** (1900 г.). Адноўлена ў лютым 1992 г.

**110** год з дня нараджэння **Працэнка Мікалая Рыгоравіча** (1900 – 1980). Беларускі літаратуразнавец. У 1948-1967 гг. – працаваў на кафедры рускай і замежнай літаратуры ГрДУ імя Я. Купалы.

**110** год з дня нараджэння **Селяха Мікалая Трафімавіча** (1900, Свіслач – 1954). Ваенны дзеяч, генерал-маёр артылерыі. Удзельнік грамадзянскай вайны.

**90** год з дня нараджэння **Жукоўскага Аляксандра Сямёнавіча** (1920 – 1995). Беларускі педагог, заслужаны работнік культуры БССР, стваральнік народнага музея Слонім. СШ №4.

**90** год з дня нараджэння **Пазлевіча Станіслава Мацвеевіча** (нар. у 1920, в.Маркуны Астрав. р-на). Носьбіт традыцыі народнай прозы.

**75** год з дня нараджэння **Гарачава Івана Іванавіча** (нар. у 1935 г.). Беларускі вучоны ў галіне заатэхніі. Скончыў ГрСХІ, ў 1965-1967 гг. – працаваў у ім.

**75** год з дня нараджэння **Давыдзіка Міхаіла Фёдаравіча** (нар. у 1935 г., в.Падароск Ваўкавыс. р-на). Беларускі журналіст, галоўны рэдактар міжнароднай газеты “Беларусачка”.

**70** год з часу заснавання **Гродзенскай мэблевай фабрыкі** (1940 г.). Цяпер ААТ “Саюзпрамтэхмантаж”.

**70** год з часу заснавання **ДУК “Гродзенскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці”** (б.Дом народнай творчасці; 1940 г.).

**70** год з часу стварэння **Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея імя П.І.Баграціёна** (1940 г.).

**60** год з часу адкрыцця **Гродзенскага абласнога дыспансера спартыўнай медыцыны** (1950 г.).

**50** год з часу заснавання **Гродзенскага завода гандлёвага машынабудавання** (1960 г.). Цяпер АТТ “Гродгандальмаш”.

**25** год з часу адкрыцця **Рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі** (1985 г.). Цяпер УК “Гродзенскі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі”.

## Студзень

**60** год з часу заснавання **ААТ “Гродзенскі камбінат будаўнічых матэрыялаў”** (1950 г.).

**1 – 20** год з часу заснавання **Слонімскага драматычнага тэатра** (1990 г.).

**3 – 70** год з дня нараджэння **Вадаевіча Васіля Пятровіча** (нар. у 1940 г.). Беларускі вучоны ў галіне медыцыны. Прафесар кафедры факультэцкай тэрапіі ГрДМУ.

**6 – 50** год з дня нараджэння **Пранько Вячаслава Аркадзьевіча** (нар. у 1960 г.). Беларускі матэматык. Дацэнт кафедры матэматычнага аналізу ГрДУ імя Я.Купалы.

**8 – 60** год з дня нараджэння **Кірвеля Івана Восіпавіча** (нар. у 1950 г., в.Арцюшы Шчуч. р-на). Беларускі географ, педагог.

**9 – 70** год з дня нараджэння **Худой Марыі Мікалаеўны** (нар. у 1940 г.). Беларускі дзяржаўны дзеяч. Скончыла Лідскі сельскагаспадарчы тэхнікум. Дэпутат Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу РБ.

**11 – 80** год з дня нараджэння **Кабац Эўгеніюша** (нар. у 1930 г., Ваўкавыск). Польскі пісьменнік, празаік, эсэіст, перакладчык.

**11 – 60** год з дня нараджэння **Руцкай Алены Вітальеўны** (нар. у 1950 г., в.Дзякаўцы Шчуч. р-на). Беларуская паэтка, член СП Беларусі (1985 г.), педагог, заслужаны настаўнік Беларусі.

**11 – 50** год з дня нараджэння **Афанасьевай Таццяны Юр'еўны** (нар. у 1960 г.). Беларускі вучоны-гісторык, архівіст, узначальвае Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродна.

**15 – 75** год з дня нараджэння **Касьяновіча Рыгора Рыгоравіча** (нар. у 1935 г.). Беларускі вучоны ў галіне эканомікі, дацэнт кафедры эканамічнай тэорыі ГрДУ імя Я. Купалы, член Саюза журналістаў РБ.

**15 – 70** год з часу ўтварэння **Астравецкага, Ашмянскага, Ваўкавыскага, Воранаўскага, Гродзенскага, Дзятлаўскага, Зэльвенскага, Іўеўскага, Лідскага, Мастоўскага, Навагрудскага, Свіслацкага, Слонімскага, Смаргонскага, Шчучынскага раёнаў** (1940 г.).

**18 – 9**0 год з дня нараджэння **Філіпава Пятра Паўлавіча** (нар. у 1920 г.). Беларускі акцёр. З 1961 г. працаваў у Гродзенскім абласным драматычным тэатры.

**18 – 80** год з дня нараджэння **Міско Сцяпана Міхайлавіча** (нар. у 1930 г., в.Чамяры Слонім. р-на). Беларускі мастацтвазнавец, культуролаг.

**21 – 70** год з дня нараджэння **Драко Аляксандра Уладзіміравіча** (нар. у 1940 г., в.Застадолле Карэл. р-на). Беларускі юрыст.

## Люты

**2** – 50 год з дня нараджэння **Васілені Алега Леанідавіча** (нар. у 1960 г., в.В.Ёдкавічы Берастав. р-на). Беларускі дызайнер.

**4 – 90** год з дня нараджэння **Сасноўскага Міхаіла Сцяпанавіча** (нар. 1920 г.). Беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1958-1962 гг. – першы сакратар Свіслацкага райкама партыі, у 1962-1983 гг. – намеснік старшыні аблвыканкама, ганаровы грамадзянін Свіслачы.

**5 – 80** год з дня нараджэння **Чартко Івана Восіпавіча** (1930, в.Ярошычы Навагруд. р-на – 1975). Беларускі мовазнавец, педагог.

**6 – 50** год з дня нараджэння **Герасім Ірэны** (дзявоч.Стурліс; нар. у 1960 г., в.Ажуройсці Астрав. р-на). Беларуская і літоўская мастачка.

**8 – 60** год з дня нараджэння **Бачарава Віктара Мітрафанавіча** (нар. у 1950 г.). Беларускі паэт, празаік, самадзейны кампазітар, педагог. З 1975 г. жыве ў Лідзе.

**8 – 50** год з дня нараджэння **Беня Рамуальда Уладзіміравіча** (нар. у 1960 г., в.Пажыжма Воран. р-на). Беларускі краязнавец.

**10 – 70** год з дня нараджэння **Амяльянчыка Міхаіла Сцяпанавіча** (нар. у 1940 г.) Беларускі вучоны ў галіне агульнай медыцыны, доктар медыцынскіх навук, прафесар ГрДМУ.

**10 – 70** год з дня нараджэння **Вадап'янава Паўла Аляксандравіча** (нар. у 1940 г., в.Паланая Карэл. р-на ). Беларускі філосаф, доктар філасофскіх навук, прафесар-эколаг.

**10 – 70** год з дня нараджэння **Клімуця Яраслава Іванавіча** (нар. у 1940 г., в.Вострава Мастоўс. р-на). Беларускі крытык і літаратуразнавец, педагог.

**11 – 70** год з часу заснавання **Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне** (1940 г.).

**12 – 60** год з дня нараджэння **Грыгор'ева Георгія Аляксеевіча** (1950, Гродна – 2002). Беларускі гісторык.

**15 – 60** год з дня нараджэння **Вялічка Магдалены Рыгораўны** (нар. у 1950 г., в.Зарэчная Даліна Шчуч. р-на). Беларускі вучоны ў галіне біяхіміі і фізіялогіі, доктар медыцынскіх навук, прафесар.

**16 – 50** год з дня нараджэння **Германа Алега Вітольдавіча** (нар. у 1960 г., Гродна). Беларускі вучоны ў галіне матэматычнай логікі і кібернетыкі.

**17 – 60** год з дня нараджэння **Міхалковіча Мікалая Уладзіміравіча** (нар. у 1950 г., в.Залясяны Гродзен. р-на). Беларускі вучоны ў галіне педагогікі.

**18 – 60** год з дня нараджэння **Дрозд Наталлі Іванаўны** (нар.у 1950 г., Слонім). Беларускі дзяржаўны дзеяч, пасол па асобых даручэннях Міністэрства замежных спраў РБ, надзвычайны і паўнамоцны пасол.

**19 – 120** год з дня нараджэння **Сваяка Казіміра** (сапр. Стаповіч Канстанцін Мацвеевіч; 1890, в.Барані Астрав. р-на – 1926). Заходнебеларускі паэт, празаік, рэлігійны і грамадскі дзеяч.

**22 – 90** год з дня нараджэння **Мялешкі Льва Восіпавіча** (нар. у 1920 г.). Беларускі фізік, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар ГрДУ імя Я.Купалы.

**22 – 75** год з дня нараджэння **Лагонды Расціслава Анатольевіча** (нар. у 1935 г., в.Лятκі Мастоўс. р-на). Беларускі музыкант (трамбон), музычны педагог, прафесар.

**22 – 50** год з дня нараджэння **Лялікава Аляксандра Міхайлавіча** (нар. у 1960 г., в.Саволеўка Гродзен. р-на). Беларускі фізік, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар ГрДУ імя Я. Купалы.

**22 – 50** год з дня нараджэння **Шылавай Ірыны Алегаўны** (нар. у 1960 г., Гродна). Беларуская спартсменка (стральба кулявая), майстар спорту СССР міжнароднага класа, заслужаны майстар спорту СССР, чэмпіёнка XXIV Алімпійскіх гульняў (1988 г.), чэмпіёнка Еўропы (1996 г.), двухкратная чэмпіёнка свету (1990 г.), пяцікратная чэмпіёнка СССР.

**23 – 170** год з дня нараджэння **Крастоўскага Усевалада Уладзіміравіча** (1840 – 1895). Рускі пісьменнік і афіцэр. У 1868-1874 гг. служыў на Гродзеншчыне.

**23 – 75** год з дня нараджэння **Бажко Васіля Васільевіча** (нар. у 1935 г.). Беларускі архітэктар. У 1963-1977 гг. – галоўны архітэктар горада Гродна. У 1977-1983 гг. – галоўны архітэктар “Гроднаграмадзянпраект”.

**25 – 75** год з дня нараджэння **Жыбнёва Яўгена Анатольевіча** (нар. у 1935 г.). Беларускі мастак. У 1966-1967 гг. –

афармляў экспазіцыі Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея.

**25 – 50** год з дня нараджэння **Грыневіча Сяргея Аркадзьевіча** (нар. у 1960 г., в.Краснае Сяло Ваўкавыс. р-на). Беларускі мастак, Сябра беларускага Саюза мастакоў.

**27 – 50** год з дня нараджэння **Петрушкевіч Алы Мікалаеўны** (нар. у 1960 г., в.Шчонава Карэл. р-на). Беларуская паэтка, крытык, літаратуразнавец, педагог.

**28 – 70** год з дня нараджэння **Мазуро Пятра Іванавіча** (нар. у 1940 г., в.Ваўканоша Навагруд. р-на). Беларускі вучоны-аграном, дацэнт кафедры агульнага земляробства Гродзенскага аграрнага універсітэта.

**Сакавік**

**70** год з часу адкрыцця **Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы** (1940 г.).

**4 – 120** год з дня нараджэння **Адважнага Вінцука** (сапр. Германовіч Язэп Станіслававіч; 1890, в.Гальшаны Ашмян. р-на – 1978). Беларускі пісьменнік.

**4 – 60** год з дня нараджэння **Жураўлёвай Наталлі Барысаўны** (нар. у 1950 г.). Беларускі культуролаг, дацэнт кафедры культуралогіі ГрДУ імя Я.Купалы.

**4 – 60** год з дня нараджэння **Качана Кастуся** (Канстанцін Іванавіч; нар. у 1950 г., в.Лаўрышава Навагруд. р-на). Беларускі мастак, пейзажыст, Сябра Беларускага Саюза мастакоў.

**5 – 80** год з дня нараджэння **Сцяцко Паўла Уладзіміравіча** (нар. у 1930 г., в.Грабава Зэльв. р-на). Беларускі мовазнавец, доктар філалагічных навук, прафесар ГрДУ імя Я.Купалы.

**5 – 20** год з часу адкрыцця **ландшафтнага заказніка рэспубліканскага значэння “Азёры”** (Гродзен. і Шчуч. р-ны, 1990 г.).

**7 – 125** год з дня нараджэння **Бярдзяева Валер’яна** (1885, Гродна – 1956). Рускі і польскі дырыжор, педагог.

**7 – 50** год з дня нараджэння **Дабрыяна Юрыя Канстанцінавіча** (нар. у 1960 г., в.Пескі Мастоўс. р-на). Беларускі вучоны-матэматык.

**8 – 100** год з дня нараджэння **Конюха Пятра Васільевіча** (1910, в.Турэц Карэл. р-на – 1994). Беларускі спявак.

**8 – 75** год з дня нараджэння **Дзесяціка Івана Іванавіча** (нар. 1935 г., г.Свіслач). Беларускі вучоны-біёлаг.

**9 – 100** год з дня нараджэння **Гінтаўта Франца Віктаравіча** (1910 – 2002, Гродна). Беларускі біёлаг, педагог. У 1965-1975 гг. – старшы выкладчык, дацэнт кафедры заалогіі і анатоміі Гродзен. педагагічнага інстытута.

**11 – 80** год з дня нараджэння **Куксевіча Здзіслава** (нар. у 1930 г., Гродна). Польскі філосаф, педагог, доктар гуманітарных навук, прафесар.

**11 – 75** год з дня нараджэння **Булыкі Аляксандра Мікалаевіча** (нар. ў 1935 г., в.Селішча Навагруд. р-на). Беларускі мовазнавец.

**21 – 170** год з дня нараджэння **Багушэвіча Францішка** (1840 – 1900). Беларускі пісьменнік, публіцыст, перакладчык, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры (крытычны рэалізм). З 1898 г. жыў у в.Кушляны Смаргон. р-на. Працаваў настаўнікам у народнай школе в.Доцішкі Воран. р-на.

**22 – 100** год з дня нараджэння **Мяйштовіча Яна** (1910, в.Вялікая Рагозніца Мастоўс. р-на – 1997). Польскі дыпламат, публіцыст, перакладчык.

**25 – 75** год з дня нараджэння **Рагулі Аляксея Уладзіміравіча** (нар. у 1935 г., в.Сенна Навагруд. р-на). Беларускі літаратуразнавец, крытык, культуролаг, педагог, аўтар і складальнік вучэбных дапаможнікаў для сярэдніх школ.

**26 – 70** год з дня нараджэння **Касцюка Міхаіла Паўлавіча** (нар. у 1940 г., в.Масцішча Навагруд. р-на). Беларускі гісторык, доктар гістарычных навук, прафесар, акадэмік НАН Беларусі.

**27 – 70** год з дня нараджэння **Гайдука Фердынанда Міхайлавіча** (нар. у 1940 г., в.Шалькоўшчына Шчуч. р-на).

Беларускі вучоны ў галіне псіхіятрыі, заслужаны работнік аховы здароўя Беларусі.

**29 –75** год з дня нараджэння **Загорскага Браніслава Іпалітавіча** (нар. у 1935 г., в.Жупраны Ашмян. р-на). Беларускі гісторык, педагог.

### Красавік

**6 – 100** год з дня нараджэння **Кіта Барыса Уладзіміравіча** (нар у 1910 г.) Амерыканскі вучоны ў галіне астранаўтыкі, асветнік, педагог, дзеяч беларускай эміграцыі, акадэмік міжнароднай акадэміі астранаўтыкі ў Парыжы. Дзіцячыя гады прайшлі ў в.Агароднікі Карэл. р-на. З восені 1839 г. дырэктар Навагруд. беларускай гімназіі.

**9 – 60** год з дня нараджэння **Громака Валерыя Іванавіча** (нар. у 1950 г., г.п.Мір Карэл. р-на). Беларускі матэматык, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар.

**10 – 100** год з дня нараджэння **Беспамятных Нікіфара Дзмітрыевіча** (1910 – 1987). Беларускі вучоны-матэматык. У 1974-1977 гг. – загадчык кафедры геаметрыі і методыкі выкладання Гродзенскага педінстытута. У 1978-1983 гг. – дацэнт гэтай кафедры.

**10 – 70** год з дня нараджэння **Крэпака Барыса Аляксеевіча** (нар. у 1940 г.). Беларускі мастацтвазнаўца, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі. У 1955-1958 гг. жыў у Гродна.

**12 – 120** год з дня нараджэння **Нёманскага Янкі** (сапр. Пятровіч Іван Андрэевіч; 1890, в.Шчорсы Навагруд. р-на – 1937). Беларускі пісьменнік, вучоны-эканаміст, грамадскі дзеяч.

**14 – 125** год з дня нараджэння **Рак-Міхайлоўскага Сымона Аляксандравіча** (1885 – 1938). Беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, педагог. У 1918-1920 гг. жыў у Гродне. Выкладчык Гродзен. беларускай гімназіі. У 1920-1922 гг. – заснавальнік і дырэктар Беларускай настаўніцкай гімназіі ў в.Баруны Ашмян. р-на.

**14 – 90** год з дня нараджэння **Карпюка Аляксея Нічыпаравіча** (1920 – 1992). Беларускі пісьменнік, заслужаны работнік культуры Беларусі. У 1978-1992 гг. – сакратар Гродзенскага абласнога аддзялення СП Беларусі.

**15 – 110** год з дня нараджэння **Тамашчыка Уладзіміра** (1900, в.Вялікія Азяранкі Ваўкавыс. р-на – 1970). Царкоўна-грамадскі дзеяч.

**16 – 75** год з дня нараджэння **Клышкі Анатоля Канстанцінавіча** (нар. у 1935 г.). Беларускі крытык, педагог, мовазнаўца, перакладчык, заслужаны работнік культуры РБ. У 1952-1953 гг. працаваў карэктарам у навагрудскай газеце "Звязда".

**17 – 70** год з дня нараджэння **Зайка Валерыя Анатольевіча** (нар. у 1940 г., в.Вераскава Навагруд. р-на ). Беларускі вучоны ў галіне радыёэлектронікі і інфарматыкі, доктар тэхнічных навук.

**17 – 50** год з дня нараджэння **Мацко Юрася** (Юры Віктаравіч; нар. у 1960 г.). Беларускі мастак, сябра Беларускага саюза мастакоў (1997 г.). У 1986-1990 гг. працаваў архітэктарам у Гроднапраектрэстаўрацыі.

**18 – 110** год з дня нараджэння **Валковіча Данілы Іванавіча** (1900, в.Занёманск Гродзен. пав., цяпер у межах г.Масты – 1937). Беларускі рэвалюцыйны дзеяч, старшыня СНК Беларусі.

**18 – 110** год з дня нараджэння **Рабіна Іосіфа Ізраілевіча** (1900, Гродна – 1987). Яўрэйскі пісьменнік. Сябра Саюза пісьменнікаў СССР (1934 г.).

**20 – 110** год з дня нараджэння **Клімовіча Адольфа Юсцінавіча** (1900, в.Клюшчаны Астрав. р-на – 1970). Беларускі грамадскі і культурны дзеяч, журналіст, выдавец.

**21 – 90** год з дня нараджэння **Врублеўскага Пятра** (1920, в.Нача Воран. р-на – 1990). Польскі мастак.

**28 – 60** год з дня нараджэння **Камаровай Тамары Канстанцінаўны** (нар. у 1950 г.). Беларускі вучоны ў галіне псіхалогіі, дацэнт кафедры агульнай і сацыяльнай псіхалогіі ГрДУ імя Я.Купалы

**30 – 80** год з дня нараджэння **Скварніцкага Марэка** (нар. у 1930, Гродна). Польскі пісьменнік, паэт, празаік, эсэіст, журналіст.

